УКРАЇНА:



ТАКІЯ РОЗНЫЯ ПЕНСІЯНЕРЫ

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

ТАКОЕ НЯТАННАЕ

ЕЎРАБАЧАННЕ-2012 БЕЗ КУПЮР



СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

13.12.12-19.12.12 г.

# БЕЗ УГА БЕЛАРУСІ СТАНЕ ТУГА?

Што чакае эканамічны складнік беларуска-венесуэльскіх адносін, калі спраўдзяцца самыя горшыя прагнозы дактароў наконт здароўя Уга Чавеса? Гэтае пытанне “Тут і цяпер” абмеркавала з вядомымі экспертамі Барысам Жалібай і Яраславам Раманчуком.




*Порт атрымліваецца адзін*

## ДАМЫ БУДУЮЦЦА БЕЗ ПАЛІТЫЧНАГА ФУНДАМЕНТА

**Доктар эканамічных навук Барыс Жаліба гаворыць, што калі да ўлады ў Венесуэле не прыйдзе пераемнік Уга Чавеса, то беларуска-венесуэльскае супрацоўніцтва можа згарнуцца па шэрагу буйных праектаў.**

“На мой погляд, трэба станоўча ацэньваць адносіны Беларусі з любой краінай, — *выказвае свае думкі Барыс Мікалаевіч.* — Іншае пытанне, што гэтыя адносіны шмат у чым будуюцца не на эканамічнай мэтазгоднасці, а на падставе асабістага сяброўства нашага і венесуэльскага прэзідэнтаў”.

На думку Барыса Жалібы, адзін з асноўных фактараў, якія перашкаджаюць развіццю больш шчыльных адносін паміж Беларуссю і Венесуэлай, — гэта вялікая аддаленасць краін.

“З-за чаго, вядома, атрымліваецца складаная лагістыка, — *тлумачыць простыя ісціны прафесар.* — Гэта паказалі пастаўкі нафты, якая пайшла ў Беларусь з Венесуэлы. Яна аказалася вельмі дарагой, што негатыўна адбілася на нашым гандлёвым балансе і паўплывала на валютны крызіс у мінулым годзе.

Ну а тое, што Беларусь удзельнічае ў здабычы нафты ў Венесуэле, будуе аграгарадкі і жыллё, уласна кажучы, нікому не перашкаджае.

*Заканчэнне на стар. 3*

ДАРЭЧЫ

## ЛІК ІДЗЕ НА ДНІ

Днямі амаль усе сайты абляцела навіна аб тым, што прэзідэнту Венесуэлы Уга Чавесу, у арганізме якога зноў выявілі злаякасныя клеткі, засталося жыць некалькі месяцаў.

“Трагічны фінал чакаецца не пазней за красавік 2013 года”, — цытуе калумбійскае радыё RCN венесуэльскага лекара Хасэ Рафаэля Маркіна. Лекар, як паведамляе сайт rian.ru, вядомы прагнозамі адносна здароўя прэзідэнта Венесуэлы і знаёмы з крыніцамі, блізкімі да брыгады медыкаў, якая абслугоўвае Чавеса. «На жаль, прэзідэнту засталося два ці тры месяцы, — агучвае сумны прагноз доктар. — Хвароба зноў прыняла агрэсіўную форму, у яго метастазы ў паяснічнай вобласці, адбываецца ушчамленне нерва ў паяснічнай частцы пазваночніка, што можа прывесці да паралічу”.

Паводле слоў доктара, падчас чарговай аперацыі венесуэльскаму кіраўніку наўрад ці пагражае небяспека. Самымі складанымі лічацца наступныя 72 гадзіны — могуць мець месца сур’ёзныя ўскладненні.

Нагадаем, што нядаўна Чавес паведаміў у эфіры нацыянальнага тэлебачання пра неабходнасць яшчэ адной аперацыі і назваў імя чалавека, якога лічыць сваім пераемнікам на выпадак, калі з ім самім што-небудзь здарыцца.

НАВІНА

## ТАКАЯ ВОСЬ “ЛЮБОВЬ”

Журналіст Еўрарадыё Зміцер Лукашук затэлефанаваў рэдактарцы аддзела культуры лукашэнкаўскай «Советской Белоруссіі», каб даведацца, як яна галасавала на адборы «Еўрабачання». Яна ўваходзіць у журы гэтага конкурса.

Адказваць Вікторыя Папова адмовілася, але слова за слова, і журналістка пачала смяяцца з беларускай мовы журналіста. Дурны смех выклікала ў яе слова «пытаннечка».

«Як я вас люблю, беларусаў, — працягвала яна. — Ненавіджу, ненавіджу!» — перакпініла яе, і яна павесіла слухаўку.

Абураны такой «культурай», рэпарцёр выставіў аўдыёзапіс размовы ў сацыяльных сетках. Там гэтая размова стала сапраўдным хітом.

Гутарку разабралі на мемы (афарызмы часоў інтэрнэта) і дэмативатары (сучасныя карыкатуры). Не дзіва, калі бяскрыўднае пытанне выклікае такую рэакцыю.

Урэшце самой Паповай давялося апраўдвацца, што словы ненавіджу былі накіраваныя зусім не да беларускай мовы, а да стылю працы журналіста Лукашука.

**Каб аформіць падпіску “Тут і цяпер”,** трэба адправіць смс са сваім адрасам на нумар **8 10 370 61 770 680**

# ЧАМУ НАШЫ ЎЛАДЫ СТАВЯЦЬ НА ВАТЫКАН?

Апошім і не толькі часам нашы ўлады ставяць стаўку на Ватыкан у разрулiваннi праблем беларусі з Еўрасаюзам, наколькі гэта правільна і мэтазгодна, а галоўнае. Наколькі карсна для ўсіх бакоў, разбіралася "Тут і цяпер".

**АНДРЭЙ ФЁДАРАЎ, ПАЛІТОЛАГ:**
### "ВАТЫКАН НЕ ДАПАМОЖА"

— У наладжванні стасункаў з Захадам Ватыкан не дапаможа. На мой погляд, святы прастол не ўнікае ў палітычныя справы. Да таго ж значная частка заходніх краін не знаходзіцца пад яго юрысдыкцыяй. Яны пратэстанты, як і Злучаныя Штаты ў асноўным пратэстанцкая краіна. Ну і царква там аддзелена ад дзяржавы. Так што ў гэтым сэнсе папа не мае значнага ўплыву на палітыку еўрапейскіх краін.

**ІРЫНА ЖАРНАСЕК, ПІСЬМЕННІЦА:**
### "ВАТЫКАН — ГЭТА СПРАВА ДУХОЎНАЯ".

— Як краіна, дзе столькі каталікоў, можа не супрацоўнічаць з Ватыканам? Але супрацоўніцтва з Ватыканам, наколькі я разумею, гэта справа найперш духоўная. Якія тут могуць быць эканамічныя ці палітычныя дывідэнды?

**ВІТАЛЬ, СТУДЭНТ БДУ:**
### "ТОЛЬКІ НА ВАТЫКАН І СТАВІЦЬ".

— А чым можа дапамагчы Ватыкан аднаму нашаму палітыку? Нафты ў Ватыкана няма. Гарэлкай і тытунём, у адрозненне ад РПЦ, ён не гандлюе. Трактары і грузавікі, як Венесуэла, не купляе. Але па-сапраўднаму дапамагчы таму палітыку можа толькі Ватыкан. Той палітык, наколькі вядома, няхрышчаны. Дык ёсць добрая нагода прыняць хрост у адзіна правільнай, кананічнай каталіцкай царкве. Пакаяцца ва ўсіх грахах у Ватыкане, дзе ніхто са святароў яго трасянку не разбярэ, а потым сысці ў які-небудзь аддалены ад свецкай мітусні кляштар. Пажадана, каб ён знаходзіўся на далёкай выспе ў акіяне. За гэты крок народ будзе ўспамінаць яго амаль як святога.

**АНАТОЛЬ СІДАРЭВІЧ, КУЛЬТУРОЛАГ:**
### "У ГЭТАЙ ГУЛЬНІ ЛУКАШЭНКА ПЕРААЦЭНЬВАЕ МАГЧЫМАСЦІ ВАТЫКАНА".

— Тут такая штука: калі не атрымліваецца ў Лукашэнкі, Мясніковіча, Макея... Прыгадайце, як Лукашэнка казаў, што Ватыкан ледзь ці не абавязаны ўзяць на сябе функцыю пасрэдніка. А Ватыкану двойчы патрэбны добрыя адносіны з Лукашэнкам. Першае: каталіцкай царкве трэба, каб змяніліся адносіны дзяржавы да яе. Мусіць, не сакрэт, што ў нас дзяржаўная рэлігія — маскоўскае праваслаўе, якое мае розныя прывілеі. А каталіцкая царква, у пэўным сэнсе, у загоне. Каб пабудаваць новы касцёл, трэба ўвесь час абабіваць парогі. Хоць каталіцкая царква, у адрозненне ад праваслаўнай, у дзяржавы грошай не просіць. Такім чынам, патрэбны нармальныя адносіны дзяржавы да царквы. Другое: Беларусь гістарычна каталіцкая краіна. Хто першы хрысціў Беларусь? Торвальд Вандроўнік, чалавек Захаду, або людзі Візантыі? Гэта яшчэ пытанне. Калі раней пэўным аванпастом каталіцкай царквы была Польшча, то цяпер ім становіцца Беларусь. Маскоўскія ксенафобы надта нервуюцца, калі да іх прыязджаюць ксяндзы палякі. Масква не пусціла ў Іркуцк паляка. Кафедру ў Іркуцку заняў наш святар Кірыл Клімовіч. Ён і сёння займае гэтую кафедру. Не адзін беларускі ксёндз служыць у Расіі. Лішне паўтараць, што і Тадэвуш Кандрусевіч служыў у Маскве. Таму, каб разгортваць сваю дзейнасць на Усход, каталіцкай царкве спачатку трэба добра ўмацавацца тут. Ватыкан дзеля гэтага, груба кажучы, падмашчваецца да Маскоўскага Патрыярхата — выказвае салідарнасць адносна "антыцаркоўных выступленняў". Калі патрыярха крытыкуюць за яго гадзіннікі і кватэры, гэта, аказваецца, выступленні супраць праваслаўя. Ватыкан займаецца палітыкай распаўсюду каталіцтва па свеце. Яму патрэбны добрыя пазіцыі ў Беларусі, каб працягваць экспансію ў Расію. І Ватыкан дзеля гэтага гатоў быць пасрэднікам — даводзіць да еўраструктур, што трэба добра паставіцца да Аляксандра Рыгоравіча і яго рэжыму. Але Лукашэнка перабольшвае магчымасці Ватыкана, бо апошні знаходзіцца ў пэўным канфлікце з Еўрапейскім саюзам. Канстытуцыя Еўрасаюза чыста секулярная. Хрысціянства ў ёй, здаецца, нават не згадваецца. Акрамя таго, трэба ўлічыць, што ў Еўропе вельмі моцныя антыклерыкальныя настроі. Не антырэлігійныя, а антыклерыкальныя — супраць папоў і супраць іх жадання нешта дыктаваць грамадству. Таму, калі Ватыкан будзе публічна заступацца ці хадайнічаць за рэжым Лукашэнкі, ён нічога не набудзе. І я не думаю, што ён адкрыта на гэта пойдзе. Ватыкан можа толькі дэмагогію ўжыць пра санкцыі, якія "ўдараць па народзе".



*Ватыкан можа дапамагчы*

**АПЫТАННЕ ПАДРЫХТАВАЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# БЕЗ УГА БЕЛАРУСІ СТАНЕ ТУГА?

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Але ў сувязі з хваробай Уга Чавеса існуе верагоднасць таго, што ў Венесуэле адбудуцца новыя прэзідэнцкія выбары. І калі пераможа той, каго Уга Чавес называе сваім пераемнікам, то адносіны паміж краінамі захаваюцца на добрым узроўні. Калі ж да ўлады прыйдуць іншыя сілы, то стасункі паміж нашымі краінамі, мабыць, стануць будавацца без уліку палітычнага фактару, а строга з эканамічных меркаванняў. І, вядома, у шэрагу сфер нашы адносіны могуць згарнуцца...".

## НЯМА ТАГО, ШТО РАНЕЙ БЫЛО...

**Вядомы эканаміст Яраслаў Раманчук сваю думку аб тым, што нармальнае супрацоўніта паміж краінамі ўжо фактычна спынілася, падмацоўвае канкрэтнымі лічбамі.**

"Вось канкрэтныя лічбы: за 9 месяцаў гэтага года наш экспарт з Венесуэлай склаў крыху больш за 166 мільёнаў долараў, — аперыруе лічбамі эканаміст. — Цяпер глядзім, **што мы туды прадаём?** Трохі калійных угнаенняў, затым трактары — на 48 мільёнаў долараў, малако і вяршкі — на 20 мільёнаў, запчасткі і прылады для аўтамабіляў — яшчэ на 20 мільёнаў. То бок, калі прыбраць трактары і калійныя ўгнаенні, то фактычна нічога і не застанецца...

**Што мы адтуль атрымалі?** Напрыклад, за тры кварталы гэтага года імпарт склаў 326 мільёнаў, гэта амаль у два з паловай разу менш, чым за аналагічны перыяд 2011 года. Значыць, пры Чавесе ўжо нічога не атрымліваецца адтуль вывозіць.

Зноў жа, дзейсная пазіцыя — сырая нафта. Натуральна, у кантэксце расійскіх дамоўленасцей гэтыя схемы страцілі ўсялякі сэнс. Таму Венесуэла цяпер можа быць якім хочаш партнёрам на ўзроўні асабістых сімпатый, але з пункта гледжання эканомікі гэта адна з прыкладна 50 краін, на долю якіх прыпадае нуль з чымсьці беларускага экспарту".

На думку Раманчука, у Венесуэле таксама далёка не ўсе задаволены супрацоўніцтвам з Беларуссю.

> "Таму Венесуэла цяпер можа быць якім хочаш партнёрам на ўзроўні асабістых сімпатый, але з пункта гледжання эканомікі гэта адна з прыкладна 50 краін, на долю якіх прыпадае нуль з чымсьці беларускага экспарту".

"Таму што беларускія трактары і аўтамабілі не могуць канкураваць на тым рынку з амерыканскімі, — *тлумачыць ён.* — І, нават калі правесці добры тэндар, наша тэхніка, натуральна, прайграе з высокай ступенню верагоднасці".

Пры гэтым Раманчук разважае так: калі ў Венесуэле будзе новая ўлада, то ўсталююцца і новыя сувязі з Беларуссю.

"Аляксандр Лукашэнка на расійскім прыкладзе паказвае, што можа дамовіцца з многімі, значыць, будзе імкнуцца дамаўляцца і з новай венесуэльскай уладай", — *разважае эканаміст.*

*Ці не занадта дорага беларусам абыходзіцца супрацоўніцтва з Венесуэлай?*

"У свой час мы абвясцілі пра нейкую геапалітычную дугу, якая цяпер быццам бы ўваткнулася нам пад рабро! — *гаворыць Раманчук.* — Вядома, гаворкі пра вялікую эфектыўнасць гэтага супрацоўніцтва быць не можа. І колькі ў тую Венесуэлу трэба везці нашых трактароў і МАЗаў! Магчыма, ёсць іншыя здзелкі, іншае дно, пра якое мы не ведаем дакладна, але можам толькі здагадвацца.

Мабыць, гэта і з'яўляецца самым галоўным у беларуска-венесуэльскіх стасунках. І яшчэ адзін нюанс: кіраўнік нашай дзяржавы вельмі добра маніпулюе геапалітычнымі амбіцыямі. У Пуціна і Крамля адны амбіцыі, у Чавеса і Венесуэлы — іншыя. Пры гэтым на свае амбіцыі грошай не шкадуюць...".

**МАРЫНА МІТ**

# ХТО Ў ЧЭРЫКАЎСКІМ РАЁНЕ ГАСПАДАР?

Пра гэты выпадак і сёння шэпчуцца ў Чэрыкаўскім раёне. Старшыня райвыканкама Мікалай Кадаценка непасрэдна ў ходзе пасяджэння выканкама прычапіўся (іншае слова падабраць складана) да сваёй намесніцы — Анжэлы Новікавай, якая курыруе пытанні ідэалогіі, і запатрабаваў ад яе "пакінуць памешчэніе".




Старшыня райвыканкама рэзка паставіўся да таго, што спадарыня Новікава не паехала, як усе астатнія работнікі выканкама, на падмогу калгасу. Спасылкі намесніцы на тое, што яна была на той час хворая, не задаволілі Мікалая Кадаценку. Ён, як многія ў раёне ведаюць, увогуле не прызнае ніякіх пярэчанняў. Вось і "выставіў" намесніцу — жанчыну, дарэчы! — з кабінета. Яна, праўда, адмовілася гэта зрабіць. Тады начальнік запатрабаваў ад начальніка міліцыі, які па сваім службовым абавязку прысутнічае на пасяджэннях райвыканкама, дапамагчы Новікавай пакінуць кабінет. Той адмовіўся (варта адзначыць, досыць разгублены распараджэннем). А Мікалай Кадаценка не супакойваўся: наступным, каму ён даў загад выставіць Новікаву з кабінета, быў пракурор раёна. У салідарнас ць з палкоўнікам міліцыі Кажамякіным пракурор Стральцоў таксама не стаў гэтага рабіць…

Чым скончылася? Ды працей не бывае, калі хто ведае класічную тэорыю і практыку развіцця канфліктнай сітуацыі. Са словамі "Тады я сыду!" пасяджэнне пакінуў сам гаспадар кабінета — старшыня райвыканкама.

Такім чынам, пасяджэнне скончылася само па сабе. А што тычыцца Анжэлы Новікавай, то яна літаральна праз некалькі дзён пайшла ў адпачынак… Чыноўнікі ж тым часам, ды і не толькі яны, чакаюць развіцця сітуацыі. Лічыцца, што сп. Кадаценка не прабачыць сваю намесніцу. Пра тое, ці павінна яна прабачыць начальніка, і гаворкі не ідзе.

**МІКАЛАЙ ЦАРКОЎ**

# УКРАІНА: ТАКІЯ РОЗНЫЯ

Пенсіянеры ва Украіне — як багатыя і бедныя ў розных краінах. Тут няма пэўнага «сярэдняга ўзроўню» выплат для пенсіянераў, таму яны таксама вельмі моцна "расслойваюцца" ў маёмасным плане: ёсць багатыя пенсіянеры, а ёсць бедныя. Гэта тлумачыць «Тут і цяпер» рэдактар сайта tyzhden.ua Дзмітро Крапівенка.



*Лічаць як па савецкім часам*

## У ПЕРАЛІКУ НА БУТЭЛЬКІ ГАРЭЛКІ

З 1 мая 2012 года Пенсіённы фонд Украіны зрабіў пераразлік пенсій: сярэдні памер пенсіённай выплаты павялічыўся на 119 грыўняў 77 капеек — з 1279 да 1399 грыўняў. Аднак колькасць людзей, якія атрымліваюць пенсію менш за 1 тысячу грыўняў, усё роўна засталася высокай — 3,7 мільёна чалавек. Колькасць пенсіянераў ва Украіне на 1 студзеня 2012 года склала 13 мільёнаў 757 тысяч чалавек.

Каб было больш зразумела, адзначым, што 1 грыўна прыкладна роўная адной тысячы беларускіх рублёў. Гэта значыць сярэдняя пенсія складае каля 160 долараў ЗША.

Цяпер можам палічыць. Бутэлька гарэлкі ва Украіне каштуе прыкладна 50 грыўняў. На пенсію можна купіць 28 бутэлек (паўтары скрыні) ці прыкладна столькі ж кілаграмаў мяса (цяляціны ці свініны) — мяса каштуе 40–50 грыўняў за кілаграм. У лепшым выпадку — 35 кг мяса. Здаецца, гэта дастаткова і нават шмат? Не, няшмат.

Асноўную частку пенсіі ў пенсіянераў "з'ядае" кватэрная плата. А яна ва Украіне вялікая. Вось што гаворыць з гэты нагоды **Дзмітро Крапівенка:**

— Мы неяк рабілі праект па аглядзе становішча пенсіянераў у краіне. Плата за кватэру — гэта асноўны артыкул выдаткаў і палова пенсіі, яна складае 400–500 грыўняў у месяц. У нас нават вельмі дарагія лекі. Большасць з апытаных намі пенсіянераў выдаткоўваюць на лекі прыкладна па 300–400 грыўняў у месяц. Гэта значыць дзве траціны пенсіі ідзе на кватэру і лекі, то бок пенсіянеру застаецца на месяц 400 грыўняў — каля 50 долараў, або 13 грыўняў у дзень. Так што ні пра якую гарэлку і мяса гаворка не ідзе.

"Вось нядаўна ў супермаркеце Дмітро бачыў дзеда з ордэнам Вялікай Айчыннай вайны на спартыўнай кофце. Прабівае на касе батон, гарэлку і грамаў 200 каўбасы, дзівіцца з чэка, коштаў: аказваецца, пераблытаў бутэльку — хацеў узяць «маленькую», а ўзяў 0,5. Трохі падумаўшы, ён сказаў: «Адмяніце каўбасу!».

## БАГАЦЕНЬКІЯ "БУРАЦІНА"

"Зрэшты, ёсць і зусім іншы пласт украінскіх пенсіянераў, — гаворыць Дмітро. — Напрыклад, нянька маіх дзяцей. У яе пенсія невялікая — каля 800 грыўняў, але яна, як я сказаў, працуе гувернанткай — гэта 1–1,5 тысячы грыўняў. Разам атрымліваецца каля 2 000 грыўняў.

Аднак муж у яе — палкоўнік у адстаўцы, які большую частку часу праслужыў у савецкай арміі і гадоў дзесяць — ва ўкраінскай. Яго пенсія складае больш за 4000 грыўняў, і яшчэ льготы на кватэрную плату (ёсць такія льготы за асаблівыя заслугі, у мужа нянькі нашага дзіцяці — за Афган). Гэта значыць, што яго пенсія большая за сярэднюю зарплату ў Кіеве.

Ім хапае на ўсё. Нават раз у год ездзяць на мора ў Адэсу. Часам (раз у два гады) наведваюць сяброў, у асноўным у Расіі (Краснадар, Алтай). Ездзяць у Беларусь і Казахстан. Ёсць у іх машына — хоць і «Жыгулі», але ездзіць. Бывае, яны яшчэ і дзецям дапамагаюць матэрыяльна. Гэтыя пажылыя людзі сапраўды задаволены жыццём і кажуць: «Так добра, як цяпер, мы ніколі не жылі».

Прыкладна такая ж сітуацыя з былымі супрацоўнікамі міліцыі, пракуратуры і чыноўнікамі вышэйшага рангу.

## СПОСАБ ВЫЖЫВАННЯ

Астатні народ — тыя, хто папрасцей альбо працавалі на вытворчасці ці ў сельскай гаспадарцы, — выжываюць як могуць. Напрыклад, бабуля жонкі Lvbnhj — Наталлі. Яна 1933 года нараджэння, усё жыццё пражыла ў вёсцы, працавала ў калгасе. Тым не менш у яе мінімальная пенсія — каля 800 грыўняў. Цяпер яна зусім захварэла, жыве ў дачкі.

Выжыць бабулі дапамагаў агарод. Пенсію яна практычна не траціла: грошы адкладвала тыпу «на пахаванне», нават хлеб сама пякла. Магла б і не пячы, але з дзіцячых гадоў прывучана да свайго хлеба. Лекі і вопратку ёй куплялі сын з нявесткай.

Акрамя таго, пасля развалу калгаснай сістэмы ў бабулі застаўся калгасны пай зямлі: тады ўсе калгасы падзялілі на паі і раздалі працаўнікам вёскі. Яна здае гэты пай у арэнду мясцоваму фермеру за 1900 грыўняў у год. Гэта ўвогуле распаўсюджаная практыка. Фермеры даволі часта бяруць калгасныя паі ў арэнду і расплачваюцца альбо грашыма, альбо з ураджаю даюць там колькі прадукцыі. Людзі бяруць ці сабе ў гаспадарку, ці на продаж.

### ДА ВЕДАМА

**Сярэдні памер пенсіі, згодна з Законам Украіны «Аб Нацыянальным банку Украіны» склаў у лютым 2012 года 4290 грыўняў. У пракурорскіх работнікаў сярэдні памер пенсіі — 5550 грыўняў, у служачых дзяржапарату — 3100 грыўняў, у мытнікаў — 3380. Але больш за ўсё сябе не пакрыўдзілі, вядома ж, дэпутаты: сярэдні памер іх пенсіі, паводле Закона Украіны «Аб статусе народнага дэпутата», склаў у лютым 2012 года 15 875 грыўняў. Гэта прыкладна ў тры разы больш за сярэднюю зарплату ў Кіеве**

# ПЕНСІЯНЕРЫ

## ДАПАМОГА ДЗЯРЖАВЫ І НЕ ТОЛЬКІ

Дзяржава пастаянна павышае пенсіі, але гэтае павышэнне, хутчэй, здзек з пенсіянераў. Яно не паспявае за ростам кватэрнай платы. Павышэнне пенсій на 200 грыўняў на пачатку года — гэта, хутчэй, выключэнне з правілаў. Зрэшты, яно было абумоўлена палітычнымі прычынамі: напярэдадні ў Януковіча былі парламенцкія выбары, трэба было дэманстраваць «павышэнне ўзроўню дабрабыту грамадзян».

У цэлым жа пенсіі дабаўлялі па 3, 5, 10 грыўняў — мізэрна.

Выбары — гэта наогул хлеб для пенсіянераў. Ва Украіне кожны кандыдат імкнецца паказаць клопат аб старых. Таму раздаюцца своеасаблівыя «харчнаборы» — крупы, алей, часам гарэлка. Гэта выклікае незадаволенасць назіральнікаў, якія расцэньваюць такое як подкуп выбаршчыкаў. Зрэшты, пенсіянерам добра, а астатняму народу «па барабане». Галоўнае, каб добра было.

Шмат каму таксама дапамагаюць рэгіянальныя ўлады. Напрыклад, у Заходняй Украіне існуе даплата для ветэранаў УПА — Украінскай Паўстанцкай Арміі, якая ваявала супраць Саветаў (да 500 грыўняў). Дарэчы, у некаторых рэгіёнах прадугледжваюцца льготы на аплату кватэры.

Па закону, пенсіянеры маюць бясплатны праезд у транспарце, акрамя таксі і маршрутак, ільготнае медыцынскае абслугоўванне. Інваліды, ветэраны вайны і ўдзельнікі баявых дзеянняў тэарэтычна могуць скарыстацца паслугай бясплатнага зубапратэзавання, бясплатнага атрымання лекаў па рэцэпце, санітарна-курортнага лячэння. Але менавіта тэарэтычна, бо, па-першае, на ўсё гэта не хапае дзяржаўных выдаткаў, а па-другое — замест гэтага пенсіянеры могуць атрымаць кампенсацыю. Пры такіх пенсіях кампенсацыя даволі важкая, таму і бяруць грашыма.

А ў асноўным пенсіянеры не шыкуюць. Вялікіх пакупак не робяць, і нават рэчы купляюць з цяжкасцю. Купіць зімовы абутак — гэта аддаць усю пенсію.

## СУМНАЕ СВЯТА

Так што рацыён пенсіянера — гэта хлеб, малако, бульба, яйкі. Зрэдку курыца — каля 20 грыўняў за кілаграм.

Вось нядаўна ў супермаркеце Дмітро бачыў дзеда з ордэнам Вялікай Айчыннай вайны на спартыўнай кофце. Прабівае на касе батон, гарэлку і грамаў 200 каўбасы, дзівіцца з чэка, коштаў: аказваецца, пераблытаў бутэльку — хацеў узяць «маленькую», а ўзяў 0,5. Трохі падумаўшы, ён сказаў: «Адмяніце каўбасу!».

Зразумела, што ўсе хочуць свята. Але свята ва ўкраінскіх пенсіянераў ужо вельмі сумнае...

**СЯРГЕЙ КОЎШ**




Кіраўнік Беларусі распавёў членам клубу галоўных рэдактороў краін СНД, Балтыі і Грузіі, чаму не жадае, каб ягоныя сыны ачолілі Беларусь.

# ТАНТАЛАВЫ ПАКУТЫ ЛУКАШЭНКІ

На сустрэчы, якая адбылася 11 снежня, Аляксандр Лукашэнка быў зазвычай шматслоўным. Мімаходзь ён фактычна паставіў крыж на адным з пунктаў сваёй праграмы – паляпшэнні дачыненняў з Захадам.

*— Вы (Евросоюз) с нами выстроите отношения только тогда, когда здесь не будет Лукашенко, будет изменен политический строй и когда здесь будет все отдано на распродажу, желательно Западу. Поверьте, у меня достаточно информации по этим вопросам.*

У паветры павісла пытанне, хто ж будзе наступным кіраўніком Беларусі, якому давядзецца аднаўляць сапсаванае цяперашнім. Аляксандр Лукашэнка ізноў вярнуўся да тэмы пра малодшага сына Мікалая, якога нібыта разглядае ў якасці пераемніка.

*— Я честно скажу: я, видимо, не доживу до того времени, когда мой младший сын захочет стать президентом. Ему-то еще 8 лет. Представьте: еще 30 лет надо (я в 38 стал президентом), чтобы стать президентом. Это мне будет под 90! Это уже на том свете буду, поверьте! Нет, я не хочу, но, понимаете, проработав столько президентом, это же каждый день нервы... Я не планирую жить до 90…*

## ВІНА "ЖОЎТАЙ ПРЭСЫ"

Усё так, але ж гаворка пра "Мікалая ІІ" пачалася менавіта пасля таго, як сам Аляксандр Лукашэнка заявіў пра магчымасць прэзідэнцтва малодшага сына. Цяпер ж ён адхрышчваецца ад уласных слоў.

*— Это родилось от желтой прессы, от так называемой пятой колонны. Это пятая колонна, которая финансируется извне, в основном Евросоюзом и США, и ясно, какую политику они проводят. Поэтому здесь они начали меня упрекать: вот, Николай - это наследник. Это обычная выдумка, чтобы напугать людей, сказать: да Лукашенко надоел, он столько у власти, да еще будет до тех пор, пока Коля не вырастет. Думают, что народ испугается. Поэтому вы даже и не думайте, это полная глупость!*

Каб падмацаваць свае сцвярджэнні, Лукашэнка пачаў скардзіцца на ўласную цяжкую долю:

*— Я вам скажу больше. Уже бы упрекали в том, что старший сын или средний хочет быть президентом - это было бы ближе к истине. Но хочу ли я президентской судьбы своим детям? Никогда в жизни! Я не хочу, чтобы они еще раз прошли этим путем. Вы не представляете, что такое президентство отца для моей семьи.*

## ПРАЗ ПАМЫЛКІ НЯЗМЕННАЙ УЛАДЫ

На тле наракканяў на нервовую прэзідэнцкую працу, якая не спрыяе доўгажыхарству, прыгадаўся старажытнагрэцкі міт пра Тантала. Гэтага цара багі асудзілі на вечныя пакуты. У Тартары, тагачасным пекле, Тантал стаяў па горла ў вадзе побач з галінамі, на якіх віселі разнастайныя плады. Але ж не напіцца, ні наесціся цар не мог, таму увесь час пакутаваў ад смагі і голаду.

Вось і Лукашэнка ў любы момант можа сысці з пасады прэзідэнта і атрымліваць асалоду ад жыцця. Дык не! Працуе на знос ужо чацвёрты тэрмін і ад пятага не адмаўляецца. Выглядае, што хоча "пакутаваць" у сваім крэсле да скону – выключна дзеля "блага народа".

Але гістарычны вопыт сведчыць: у абсалютнай большасці выпадкаў "вечны" кіраўнік – бяда для краіны. Тыя праблемы, якім Лукашэнка не даў рады за 18 з паловай год, не будуць вырашаныя ім і надалей. Напярэдадні чарговы крызіс састарэлай эканомікі з вынікаючымі з гэтага наступствамі для простых грамадзян, якія ўвесь час церпяць, нібы той Тантал, — праз памылкі нязменнай улады…

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# НАВОШТА Ў ГОД БЕРАЖЛІВАСЦІ НАМНЯТАННАЕ "ЕЎРАБАЧАННЕ"?

**Пасля абрання Алены Ланской прадстаўніком Беларусі на міжнародным песенным конкурсе "Еўрабачанне-2013" не толькі беларускія гледачы, але і самі артысты перажываюць відавочнае дэжавю.**




Пасля скандалу з фальсіфікацыяй галасавання і разбору на самым версе сёлетняя перамога Ланской і Ко выглядае не менш пераканаўчай і элегантнай, чым вынік апошніх выбараў.

## СТАРАЯ ПЕСНЯ НА НОВЫ КАПЫЛ

Між іншым з першага "трыумфу" да другога не мінула і года (калі быць дакладным, то прайшло крыху менш за 10 месяцаў). Але за гэты час адбылося нямала цудаў. Прадзюсар **Дзмітрый Баранаў**, названы па выніках афіцыйнага расследавання вінаватым у падтасоўцы галасоў, быў звольнены з БТ і… нечакана аб'явіўся на пасадзе дырэктара прадзюсарскага цэнтра "Спамаш", дзе ледзь ці не з моманту заснавання цэнтра "служыць" салісткай **Алена Ланская** (згодна з пашпартам, Ляпохіна). Сама спявачка, якая некалькі месяцаў запар паўтарала, што моцна апяклася і не збіраецца падаваць заяўку ў адбор на "Еўрабачанне-2013", практычна ў апошні дазволены правіламі дзень гэта ўсё ж такі зрабіла. У фінале Ланская з даволі сярэдненькай песенькай у стылі еўра-поп "RhythmofLove" раптоўна набрала больш за 10 тысяч галасоў і абышла папярэдніх лідараў усіх альтэрнатыўных галасаванняў — гурт "Nuteki".

Сацыяльныя сеткі, мякка кажучы, выбухнулі. "Ах, як нечакана!" — кпіць у сваім блогу кампазітар Сяргей Сухамлін, чыю песню "Mum" "выгуляла" на "Еўрабачанні-2006" Паліна Смолава.

**ДА ВЕДАМА**

**Увогуле прадставіць Беларусь на "Еўрабачанні-2013" пажадалі больш за 80 выканаўцаў і музычных калектываў. У фінале нацыянальнага адбору ў гэтым годзе змагаліся 10 прафесійных музыкантаў, у ліку якіх Макс Лорэнс ("I love your charming eyes"), Аляксей Грос ("One wayl ove"), Дар'я ("Catch me again"), група Nuteki ("Saveme"), Сацура ("Get out of my way"), Uzari ("Secret"), Япkey ("Letter to mother"), Віталь Баранко ("I wonder how you"), "Beaver Band" ("Incredible girl").**

"Я ўключаю свае экстрасенсорныя здольнасці! Едзе Ланская! — каментавала тэлетрансляцыю вострая на язык тэлевядучая Ганна Бонд. І пасля абвяшчэння вынікаў: — Я рада! Якое шчасце! Туш цячэ! О-о-о-о, гэта было незабыўна!"

"Вынікі свайго галасавання па "Еўрабачанні" не апублікую з карпаратыўнай этыкі, — выказваецца прадзюсар Уладзімір Максімкаў, які адказваў за першае для Беларусі "Еўрабачанне-2004". — Але свае думкі і каментарыі па артыстах — маю права. Заўтра". Назаўтра ў блогу прадзюсара з'явіўся наступны (безадрасны) допіс: "Некаторыя думаюць, што, калі яны выходзяць на сцэну ці подыум, іх паказваюць па тэлевізары, іх фотаздымкі з'яўляюцца ў газетах і часопісах, яны зоркі. Вы памыляецеся! Зорка — гэта нябеснае цела, у якім адбываюцца, адбываліся або будуць адбывацца тэрмаядзерныя рэакцыі".

> "Прыкладам, на дзіцячае "Еўрабачанне" сёлета лятаалі 15 чалавек, і толькі палова з іх мела непасрэднае дачыненне да выступлення на сцэне".

## ЦВЯРОЗЫ РАЗЛІК

Між тым пакуль адны смяяліся да слёз, другія плакалі ад смеху, а трэцім ікалася, мала хто задаўся простым пытаннем: ці магла каманда Алены Ланской, якую летась публічна і даволі адчувальна шчоўкнулі па носе, перамагчы сумленна? Парадаксальна, але факт: магла.

Схавайце вашы тапкі — яшчэ будзе ў каго кінуць. Кіруемся цвярозым розумам і матэматыкай. Хоць афіцыйна лічбы галасавання гледачоў ні ў мінулы, ні на гэты раз нідзе не былі апублікаваны, на некаторых аматарскіх запісахтрансляцыі іх можна ўбачыць. У фінале сёлетняга нацыянальнага адбору Алена Ланская набрала 10370 галасоў гледачоў. Падкрэслім: гэта не колькасць чалавек, якія падтрымалі разадзетую ў чырвань і скуру бялявуюшэльму, а колькасць тэлефанаванняў і СМС. За 10 хвілін, якія доўжылася галасаванне, адэпты "Еўрабачання" маглі і персанальна Ланской патэлефанаваць хоць 20 разоў — балазе, са стацыянарных тэлефонаў званок быў бясплатным — і яшчэ разарыцца на пару-тройку СМС (коштам ад 3500 да 4100 бел.руб., у залежнасці ад аператара).

Атрымліваецца, штоза спявачку прагаласавалі ў лепшым выпадку 3000 чалавек,а мо і таго менш. Матываваць жа іх можна было вельмі проста. Напрыклад, намякнуць у "неафіцыйных абставінах" супрацоўнікам канцэрна"Амкадор" (дзе"руліць" Аляксандр Шакуцін, той самы, які валодае і прадзюсарскім цэнтрам "Спамаш"), што за праяўленую актыўнасць іх чакае прэмія напрыканцы года. Правяраецца актыўнасць элементарна — раздрукоўкай званкоў з хатняга тэлефона, а прэмія, што ні кажы, справа прыемная. І, галоўнае, ніякага крыміналу: абсалютна ніхто і нішто не перашкаджала ўсім астатнім 9 кандыдатам на "Еўраба-

чанне" зрабіць тое ж самае. Ніхто і нішто, акрамя фінансавых магчымасцяў. Але гэта толькі версія, адна з многіх…

Зрэшты, не будзем адыходзіць ад тэмы, рушым далей. Асабіста я, прызнаюся, нічога не маю супраць таго, каб пераможца нацыянальнага адбору, якім бы ён там ні быў, за свае ўласныя (ці прадзюсарскія, ці адпрададзенай ныркі грошы) з'ездзіў паспяваць у Швецыю. Але тут ёсць істотнае, самае важнае пытанне:

## ЦІ ВАРТА БЕЛАРУСІ НААГУЛ УДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У "ЕЎРАБАЧАННІ"?

Калі падлічыць агульную колькасць галасоў за ўсіх 10 фіналістаў сёлетняга адбору і прыблізна ўявіць колькасць рэальных людзей, якія глядзелі і галасавалі за ўвесь гэты, прабачце, беларускі шоу-біз, атрымліваецца вельмі сумная карцінка. Прадстаўніка Беларусі на "Еўрабачанні" выбіралі менш як 15, а то і 10 тысяч чалавек! Гэта нават не 1 працэнт насельніцтва краіны. Гэта менш, чым насельніцтва Стоўбцаў, Быхава і тым больш Магілёва, адкуль родам сёлетняя пераможца.

Між тым унёсак кожнай краіны за ўдзел у "Еўрабачанні", хоць і трымаецца ў сакрэце арганізатарамі — Еўрапейскім вяшчальным саюзам, але складае ад некалькіх дзясяткаў да некалькіх сотнь тысяч еўра. Прыкладам, для Расіі ў далёкім ужо 2000 годзе гэты ўнёсак складаў 70 тысяч долараў, цяперашняя сума наўрад ці змянілася ў меншы бок. Ці не занадта вялікая цана для турпаездкі мястачковай "зоркі" ў Еўропу? Нават калі яе прадзюсар, як агаворана ў сёлетнім палажэнні беларускага нацыянальнага адбору, цалкам аплаціць падрыхтоўку да конкурсу — здымкі кліпа, паслугі іміджмейкераў і аранжыроўшчыкаў, педагогаў па вакале, англійскай мове і г.д. І гэта яшчэ далёка не ўсе выдаткі. У маі дабавяцца рахункі за авіяпералёт, пражыванне ў гатэлі, харчаванне для ўсёй дэлегацыі, у склад якой, акрамя творчай групы, трапяць і тэлевізійныя функцыянеры, і "правільныя" СМІ. Прыкладам, на дзіцячае "Еўрабачанне" сёлета ляталі 15 чалавек, і толькі палова з іх мела непасрэднае дачыненне да выступлення на сцэне. Дык, цытуючы савецкую кінакласіку, за чый рахунак банкет? Альбо (калі бліжэй да нашых часоў) цытуем леташні разбор "Еўрафэсту" ў прэзідэнта:

**АФІЦЫЙНА**

**Заслужаная артыстка Беларусі Алёна Ланская нарадзілася 7 верасня 1985 года ў Магілёве. Яна лаўрэат музычных конкурсаў "Сарандэў-2008" (Балгарыя) і "Кубак Еўропы-2009" (Расія); пераможца Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў папулярнай музыкі Atlantic Breeze-2010; лаўрэат конкурсу маладых музыкантаў "Маладыя таленты Беларусі" (Першы нацыянальны канал Беларуска гарадыё); лаўрэат І ступені конкурсу маладыхвыканаўцаў маладзёжнай песні V Міжнароднага фестывалю "Моладзь - за Саюзную дзяржаву" (Расія). У ліпені 2011 года на конкурсе маладых выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск-2011", які праходзіць у час міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску", Алёна заваявала Гран-пры. Выканаўца скончыла Магілёўскі фінансава-эканамічны прафесійна-тэхнічны каледж па спецыяльнасці "банкаўская справа", а таксама магілёўскіБеларуска-Расійскі ўніверсітэт, дзе асвоіла спецыяльнасць "фінансы і крэдыт".**

"Траціце мільярды рублёў незразумела на што. Вам што, грошы няма куды дзяваць?"

Мо варта ўзяць прыклад з Польшчы, якая другі год запар не бярэ ўдзел у "Еўрабачанні".Або павучыцца ў Славакіі і Партугаліі, якія адмовілісяад удзелу па фінансавых матывах? У спісе "адмоўнікаў" таксама Чэхія, Манака, Андора, Ліхтэнштэйн і Люксембург; пад пытаннем удзел у конкурсе Грэцыі і Босніі і Герцагавіны. Далёка не ва ўсіх гэтых краінах эканамічная сітуацыя горшая за наш "цэнтр Еўропы", проста іх урады расставілі прыярытэты. Тым больш што наступны год для беларусаў пройдзе пад знакам эканоміі і беражлівасці. Дык, можа, і нам, панове, пераняць карысны вопыт ды сэканоміць бюджэтныя (чытай — падаткаплацельшчыкаў) грошы, творчыя амбіцыі і нервы гледачоў?

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**



Напэўна, нават самыя сур'ёзныя людзі некалі ў дзяцінстве верылі, што Дзед Мароз дапаможа спраўдзіць іх самую запаветную мару. І кожны хоць аднойчы, але загадваў у навагоднюю ноч нейкае жаданне. Альбо проста недзе глыбока ў душы спадзяваўся на навагодні цуд.

# АБ ЧЫМ ПРОСЯЦЬ ДЗЕДА МАРОЗА?

На галоўным паштамце Мінска ўсталявалі спецыяльную скрыню для лістоў Дзеду Марозу.

Таму "Тут і цяпер" вырашыла пацікавіцца ў некаторых вядомых асоб, аб чым бы яны зараз папрасілі Дзеда Мароза.

## ВЯРЦІНСКІ З ДЗЯЎЧАТАМІ АБЫХОДЗІЎСЯ БЕЗ ДАПАМОГІ ДЗЕДА МАРОЗА

*Паэт* **Анатоль Вярцінскі** *скептычна ставіцца да навагодніх свят і ўсяго таго, што з імі звязана.*

— Цікавае супадзенне: днямі ехаў у аўтобусе і з прыёмніка, які слухаў кіроўца, даносіліся словы аб тым, якія падарункі рыхтуюць беларусы да Новага года, — *распавядае Анатоль Ільіч.* — І я раптам падумаў, што ніколі не ўспрымаў Новы год як свята. І са студэнцкіх часоў для мяне гэтае свята як пакута! Я ўвесь час дзівіўся, чаму людзі звязваюць з Новым годам столькі надзей і мрояў. І дагэтуль, між іншым, не разумею. Мне падаецца, гэта такі масавы самападман, нешта накшталт усеагульнага псіхозу".

*На пытанне "Няўжо і пад келіх шампанскага ў навагоднюю ноч ніколі не загадвалі жаданняў? Можа, пра каханку нейкую, калі былі маладым і нежанатым, думалі?" Вярцінскі адказвае з жартам:* "Пра каханку, канечне, думаў, і яшчэ як! Але ў гэтым далікатным пытанні неяк абыходзіўся без Дзеда Мароза. І жаданне пад бой курантаў загадваў — каб дзень чарговы наступіў, каб святло ў акне з'явілася. Але ў сэнсе таго, каб прасіць і думаць пра нешта лёсавызначальнае, пра тое, што жыццё зменіцца да лепшага, — такога ніколі не было ў мяне...".

## КІШТЫМАВУ ПРАСЦЕЙ РАСПАВЕСЦІ ПРА ДЗЯЦІНСТВА РАДЗІВІЛАЎ

*Гісторык* **Андрэй Кіштымаў** *нічога не хоча атрымаць з мяшка Дзеда Мароза.*

"Але я папрасіў бы яго аб тым, каб мой уласны мяшок не быў пустым, — *гаворыць Андрэй Леанідавіч.*

*Заканчэнне. на стар. 8*

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 7*

# АБ ЧЫМ ПРОСЯЦЬ ДЗЕДА МАРОЗА?

— А ўвогуле, пытанне такое незвычайнае. Нават цяжка адразу адказаць... Папрасіў бы магчымасці здзейсніць усе свае жаданні.

У дзяцінстве аб чым марыў? Ведаеце, гісторыкі такія людзі, што ім прасцей распавесці нешта пра дзяцінства Радзівілаў, чым пра саміх сябе. І прасцей узгадаць, што было сто ці дзвесце гадоў таму... Дакладна не марыў стаць касманаўтам і ваенным — бацька быў ваенным лётчыкам, і мне гэтая прафесія не падавалася рамантычнай. І на мора не хацеў. Часам я асацыіраваў сябе з героямі тых кніжак, якія чытаў. А чытаць я вельмі любіў — пра падарожжы, прыгоды… І марыў перанесціся ў тую абстаноўку, у тую эпоху, пра якую напісана ў кнізе. Мне хацелася пабачыць усё на ўласныя вочы".

## ІВАШКЕВІЧ ДУМАЕ ТОЛЬКІ ПРА ДЗЯРЖАВУ

*Ёсць такія палітыкі, для якіх дзяржаўнае найважнейшае за асабістае нават у святы. Віктар Івашкевіч, відаць, адзін з такіх — ён марыць толькі пра светлую будучыню краіны.*

"Хацеў бы, каб новы прэзідэнт даручыў мне зняць з даху прэзідэнцкай рэзідэнцыі стары сцяг і замяніць яго на бел-чырвона-белы, — *гаворыць палітык.* — А ўсё астатняе неістотна. Мне няма аб чым больш прасіць — усім задаволены, усё ёсць".

## АСТАПОВІЧ У КАЗКІ НЕ ВЕРЫЦЬ

*Старшыня Таварыства аховы помнікаў Антон Астаповіч прызнаецца, што Дзед Мароз заўсёды быў для яго нанятым* ахламонам *і ён ніколі ў яго не верыў.*

"Для мяне Дзед Мароз быў нанятым ахламонам, часцяком нецвярозым, — *гаворыць ён*. — Таму ў мяне няма традыцыі пісаць яму лісты. Да таго ж я з дзяцінства чалавек занадта прыземлены і рэалістычны. І ў пераднавагоднія цуды не веру, а вось у Калядныя — так. А Новы год, між іншым, я практычна і не святкую".

## ЛЯБЕДЗЬКА ПАПРАСІЎ БЫ ВЯРНУЦЬ БАЦЬКУ

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька на хвіліну задумаўся, пачуўшы пытанне. А потым з усмешкай адказаў: "Папрасіў бы, каб Дзед Мароз мядзведзіка плюшавага падарыў мне. Што я з ім буду рабіць? Для мяне гэта сімвал майго дарослага дзіцячага шчасця. У мяне ён выклікае пазітыўныя эмоцыі. А акрамя цацкі....

Калі па-сур'ёзнаму, то папрасіў бы толькі аднаго: вярнуць мне майго бацьку, які нядаўна памёр. Каб мы з ім мелі магчымасць сесці на кухні, як раней. І я сказаў бы яму тое, што не паспеў. А ўсё астатняе...

Мы не павінны прасіць у Дзеда Мароза, самі павінны рабіць".

**МАРЫНА МІТ**




**ДАРЭЧЫ**

**Для таго каб адправіць ліст Дзеду Марозу, на канверце дастаткова так і напісаць — "Дзеду Марозу". Навагодняе пасланне можна адправіць да 25 снежня.**

**Акрамя таго, ад Дзеда Мароза можна будзе атрымаць зваротны ліст. Падарункавыя наборы, загадзя аплачаныя, даставяць паштальёны. Кошт віншавальнага набору з лістом пачынаецца ад 70 тысяч беларускіх рублёў. Такія наборы абяцаюць даставіць атрымальнікам не толькі ў Беларусі, але і ў краінах СНД, і далёкага замежжа. Да 20 снежня можна замовіць ліст па Беларусі, да 15 снежня — для адпраўлення за мяжу.**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 13.12.12
Тыраж 299 экзэмпляраў